


.BY КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ПАДАННІ #30

ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ

АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

COMICSBY.BY

VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES 5

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**










ЛАЙНО.
ПРАБАЧЦЕ?
Я МЕРКАВАЎ, ШТО ДАЎ ЯМУ **ДВАЦЦАТКУ**.
ДАЛІ КАМУ?
НЕ ВАРТА.
ДАВАЙ, ДАВАЙ.
ЕДЗЬ.
ПРАБАЧЦЕ, СЭР, ДОСТУП НА ПАВЕРХ **АБМЕЖАВАНЫ...**
Я ШТО, **ПАДОБНЫ** НА ЗВЫЧАЙНАГА, ЭФРАМ?
ВОХ, ГЭТА **ТЫ**, БОЗЛІ. ЗАРАЗ ЖА ПРАПУШЧУ.
SECURITY
БОЗЛІ! ВОЎК!
ШТО Я ТАБЕ **КАЗАЛА** НАКОНТ КУРЭННЯ Ў МАЁЙ БАЛЬНІЦЫ?
ПРАБАЧЦЕ, МІСІС КІЛЬКА, ЗАБЫЎСЯ.
БОЛЬШ НЕ ПАЎТАРЫЦЦА.
RESEARCH SECTION
RESTRICTED ADMITTANCE
MATERNITY




ВАЗЬМІЦЕ ЦЫГАРУ.
Я ВЯРНУЎСЯ.
ДЗЕ ТЫ **БЫЎ**? ЦЯБЕ НЕ БЫЛО БОЛЬШ, ЧЫМ ГАДЗІНУ!
DELIVERY ROOM
NO ADMITTANCE
МНЕ ТРЭБА БЫЛО ПРАГАЛАСАВАЦЬ, ПЕРААПРАНУЦЦА, І Я СПЫНІЎСЯ ПА ДАРОЗЕ, КАБ КУПІЦЬ ГЭТА.
ТРЭБА ПЫТАЦЬ, ЗА КАГО **ТЫ** ПРАГАЛАСАВАЎ?
ВАЗЬМІЦЕ ЦЫГАРУ.
ГЭТА ТВАЁ **ЧЫСТАЕ** АДДЗЕННЕ?
ФАЙНА, ХЛОПЕЦ.
ЯК ЯНА? ШТОСЬЦІ КАЗАЛІ?
НАВІН НЯМА. ТРЫЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ГАДЗІН **РАДАВЫХ СХВАТАК**.
НУ, Я ВЯРНУЎСЯ, ТАМУ МОЖАШ ПАЙСЦІ ПРАГАЛАСАВАЦЬ.
Я ЎЖО ЗРАБІЎ ГЭТА РАНІЦАЙ, ПЕРАД ПРЫЕЗДАМ СЮДЫ.


ЗА КАГО ТЫ ПРАГАЛАСАВАЎ?
ЗА КАГО ТЫ ПРАГАЛАСАВАЎ?
СУПАКОЙЦЕСЯ ХЛОПЧЫКІ, ПАКУЛЬ НЕ ПАЧАЛІ ПЫРСКАЦЬ ПЕНАЙ З РОТА.
Я ШЧЫРА ЖАДАЮ, КАБ У СНЕЖКІ БЫЛО ЎСЁ ДОБРА. МНЕ ТРЭБА БЫЦЬ СЯРОД МАЙГО НАРОДА... ЗАЛУЧАЦЬ ЧАКАЮЧЫХ ДА АПОШНЯГА МОМАНТУ.
НАКІДАЦЬ АПОШНІЯ ШТРЫХЫ НА МАЮ ПЕРАМОЖНУЮ ПРАМОВУ.
НЕ ХВАЛІСЯ СЕЎШЫ, А ХВАЛІСЯ З'ЕЎШЫ, ПРЫНЦ. ТЫ ЯШЧЭ НІЧОГА НЕ ВЫЙГРАЎ.
НАВОШТА ТЫ ЎВОГУЛЕ РАСПАЧАЎ ГЭТЫ БАРДАК? ШТО Я ТАБЕ ТАКОГА ЗРАБІЎ, ШТО ТЫ ЖАДАЕШ ЗАБРАЦЬ МАЮ ПРАЦУ?
НІЧОГА АСАБІСТАГА, ВАША ВЯЛІКАСЦЬ. ПРОСТА НЕПРЫКРЫТЫЯ АМБІЦЫІ З МАЙГО БОКУ.
І ПРАГНАСЦЬ. НЕ БУДЗЕМ І ПРА ЯЕ ЗАБЫВАЦЦА.
ЗА ШТО МНЕ ЎСЁ ГЭТА?
ЧАМУ ТЫ ТАК УСМІХАЕШСЯ, БОЗЛІ?
САПРАЎДЫ? Я І НЕ ЗАЎВАЖЫЎ.
ТАДЫ СПЫНІСЯ. ГЭТА МЯНЕ ПАЛОХАЕ.




VOTE
НЕ, НЕ ТУТ, МЭМ. ГАЛАСАВАННЕ Ў БАНКЕТНАЙ ЗАЛЕ НА ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫМ ПАВЕРСЕ.
ГЭТА ЧАРГА, ДЗЕ ВЫ ЎКІДАЕЦЕ ВАШ БЮЛЕТЭНЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АТРЫМАЛІ ЯГО.
КАЛІ Ў ВАС ЯШЧЭ НЯМА АФІЦЫЙНАГА БЮЛЕТЭНЯ, ВАМ ТРЭБА БЫЦЬ У ДРУГОЙ ЧАРЗЕ.
ГАЛАСАВАЦЬ ПРОСТА: АДЗНАЧЦЕ АДНУ З ДЗВЮХ ГРАФАЎ З ІМЁНАМІ КАРАЛЯ КОЛЯ ЦІ ВЫДАТНАГА ПРЫНЦА, ЦІ ЎПІШЫЦЕ ВАШАГА КАНДЫДАТА Ў ПУСТОЙ ГРАФЕ ЎНІЗЕ.
НЕ АДЗНАЧАЙЦЕ БОЛЬШ ЗА АДНУ ГРАФУ, І НЕ ВЫЗНАЧАЙЦЕ БОЛЬШ ЗА АДНАГО КАНДЫДАТА, ІНАКШ ВАШ ГОЛАС НЕ БУДЗЕ ЗАЛІЧАНЫ.
ГЭТА ТАК ХВАЛЮЮЧА, ДЭМАКРАТЫЯ Ў ДЗЕЯННІ. ЦЯПЕР Я САПРАЎДЫ АДЧУВАЮ СЯБЕ АМЕРЫКАНЦАМ.
У ВАС ЁСЦЬ БЮЛЕТЭНІ СА ШРЫФТАМ БРАЙЛЯ?
Vote Here
Ballot Forms
НУ, ПРЫЗНАВАЙСЯ, МУХ. ЗА КАГО ГАЛАСУЕШ?
Я ЎПІСАЎ ІМЯ СПАДАРЫНІ СНЕЖКІ, ПАПЯЛУШКА.
ЯК ТЫ МОГ ЗРАБІЦЬ ГЭТА, УЛІЧВАЮЧЫ ЎСЕ ЯЕ СУМНІЎНЫЯ ПРЫГОДЫ? А ЦЯПЕР ЯНА ЯШЧЭ І З ПАЗАШЛЮБНЫМ ДЗІЦЁМ? НЕЧУВАНА!



Сорак дзве гадзіны схватак...
ДОБРА, СНЕЖКА, ПНІСЯ МАЦНЕЙ, ЯШЧЭ РАЗОК!
БАЧУ ГАЛОЎКУ МАЛЫША!
А БО-ЖУХНА!
А БО-ЖУХНА!
А БО-ЖУХНА!
ПРЫСТАЎЦЕ ПІСТАЛЕТ ДА МАЁЙ ГАЛАВЫ І ПРЫСТРЭЛІЦЕ МЯНЕ ЎЖО!
У ГЭТЫ РАЗ Я ПАМРУ, АБЯЦАЮ!
ТЫ МАЛАЙ-ЧЫНА.
ЗАРАЗ, ПНІСЯ.
ЯШЧЭ РАЗОК.
ВОСЬ ТАК!
ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІ, СНЕЖКА!
У ЦЯБЕ ЗДАРОВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА! ВЫ-ГЛЯДАЕ АБСАЛЮТ-НА НАРМАЛЬНА.
НАРМАЛЬНА? ВЫ АСЛЕПЛІ? У ЯЕ ХВОСТ!






ГЭТА ПУПАВІНА. МЫ ЗАРАЗ ЖА ЯЕ АДРЭЖАМ.
ВОХ, ДЗЯКУЙ БОЖА! Я МАГУ ПАТРЫМАЦЬ ЯЕ ХВІЛІНАЧКУ, ПЕРШ ЧЫМ УПАДУ Ў ЦІХУЮ І СПАКОЙНУЮ КОМУ?
БАЮСЯ, ШТО НЕ. МЫ МУСІМ ЯШЧЭ ПАПРАЦАВАЦЬ.
НАСТУПНАЕ ДЗІЦЯ НА ПАДЫХОДЗЕ.
НАСТУП-НАЕ? У МЯНЕ ДВАЙНЯТЫ?
ВЫ ЗНАРОК ЧАКАЛІ ГЭТЫ МОМАНТ, КАБ СКАЗАЦЬ МНЕ?
Я САМ НЕ ВЕДАЎ. ВЫКЛЮЧНА МАГІЧНАЯ НАТУРА ТВАЁЙ ЦЯЖАРНАСЦІ ВЕЛЬМІ ЗАБЛЫТАЛА МАЮ МЕ-ДЫЦЫНСКУЮ АКУСТЫКУ І ІНШУЮ ДЫЯГНАСТЫЧНУЮ АПАРАТУРУ.
І МЯРКУЮЧЫ ПА СТУПЕНІ РАСЦЯЖЭННЯ ЖЫВАТА, МЫ МОЖАМ ЧАКАЦЬ БОЛЬШ ЗА ДВУХ У ПРЫПЛОДЗЕ...
ТРАЙНЯТЫ?
ЦІ БОЛЕЙ.
ПРЫПЛОД?
У МЯНЕ ПРЫПЛОД?
ТААК, ЗАРАЗ ТАБЕ ТРЭБА ВЕЛЬМІ ДОБРА ПАТУЖЫЦЦА.


VOTE
ГЭТА ЧАРГА ТОЛЬКІ ДЛЯ КАЗАЧНЫХ З БЮЛЕТЭНЯМІ.
КАЛІ Ў ВАС ЯШЧЭ НЯМА БЮЛЕТЭНЯ, ВАМ ТРЭБА БЫЦЬ У ДРУГОЙ ЧАРЗЕ.
КАЛІ Ў ВАС АДСУТНІЧАЮЦЬ ПАЛЬЦЫ, ЦІ ВЫ ПА ІНШЫХ ПРЫЧЫНАХ НЕ МОЖАЦЕ ЗАПОЎНІЦЬ СВОЙ БЮЛЕТЭНЬ, ВЫ МОЖАЦЕ НАЗНАЧЫЦЬ КАГО-НЕБУДЗЬ, КАБ БЮЛЕТЭНЬ ЗАПОЎНІЛІ ЗА ВАС, ПРЫ ВАШАЙ НАЯЎНАСЦІ І ПАД ВАШЫМ КІРАЎНІЦТВАМ.
КАЛІ ВЫ ДОЙДЗЕЦЕ СЮДЫ, ВЫ МУСІЦЕ ВУСНА ЗАЯВІЦЬ: "ГЭТА МОЙ БЮЛЕТЭНЬ, ЗАПОЎНЕНЫ, ЯК Я ПАЖАДАЎ", ПЕРШ ЧЫМ ПАКЛАСЦІ ЯГО Ў КАРОБКУ.
Vote Here
Ballot Forms
ПРЫЗНАВАЙСЯ, ДОНІ. ТЫ КАГО ВЫБРАЎ?
СКАЖЫ, СКАЖЫ, СКАЖЫ ХУТЧЭЙ.
ТЫ ПРАГАЛАСАВАЎ ЗА ВЫДАТНАГА ПРЫНЦА?
НІКОЛІ Б НЕ ГАЛАСАВАЎ ЗА ЯГО.
ТЫ Ж НЕ ЛІЧЫШ, ШТО КАРОЛЬ КОЛЬ ПЕРАМОЖА?
8


СОРАК ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ СХВАТАК...
ДОБРА, СНЕЖКА, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ГЭТА АПОШНІ.
ВЫ КАЗАЛІ ГЭТА Ў МІНУЛЫ РАЗ, І ДА ГЭТАГА!
КАЛІ ЛАСКА, КАЛІ ЛАСКА ПРОСТА ХАЙ ЯНЫ ПЕРАСТАНУЦЬ ЛЕЗЦІ З МЯНЕ!
НУ-НУ. МЫ АМАЛЬ СКОНЧЫЛІ.
Я ЎСЁ ЗРАБЛЮ!
Я ДАМ ВАМ КЛЮЧ АД ЛЮБОЙ СКАРБНІЦЫ СІНЕБАРОДА. НА ВАШ ВЫБАР!
НУМАР ШЭСЦЬ.
ШТО-ШТО, БОЗЛІ? ОГО, ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ... ШТОСЬЦІ ЗДАРЫЛАСЯ?
Я ЧУЮ СНЕЖКУ. ЁЙ ВЕЛЬМІ БАЛЮЧА.
І ЯНА НА МЯЖЫ СВАІХ СІЛ.
9


VOTE
VOTE
ЯК ТОЛЬКІ РЭЗУЛЬТАТЫ БУДУЦЬ АБВЕШЧАНЫЯ, Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ЗАПАТРАБАВАЎ НЕАДКЛАДНАГА ПЕРАЛІКУ.
ГЭТА БУДЗЕ ВЫГЛЯДАЦЬ ЛЕПШ, КАЛІ ГЭТА ЗАПАТРАБУЕШ ТЫ, А НЕ Я.
І МНЕ ТРЭБА, КАБ ТЫ ЎПОТАЙ ПЕРАГАВАРЫЎ З ВЫДАТНЫМ ПРЫН-ЦАМ І ДАВЕДАЎСЯ, ЯК ДОЎГА ЁН ДАЗВОЛІЦЬ МНЕ ЗАСТАВАЦЦА Ў ПЕНТХАЎСЕ ПАСЛЯ СЁННЯШНЯГА ДНЯ.
ГЭТА ВЕЛЬМІ ВЯЛІКАЯ АДКАЗНАСЦЬ, СПАДАР МЭР. ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЖАДАЕЦЕ, КАБ Я ЗАЙМАЎСЯ ГЭТЫМ?
УСЕ МАЕ ЛЮДЗІ ПАКІНУЛІ МЯНЕ, МУХ. ЦІ РАДЖАЮЦЬ, ЦІ ЗАЙМАЮЦЦА ГЭТЫМІ САМЫМІ ВЫБАРАМІ, ЯКІЯ ТАК І ЧАКАЙ ЗАСТАВЯЦЬ МЯНЕ НА ВУЛІЦЫ.
СКАНЧАЕМ, ХЛОПЦЫ.
ІДЗІЦЕ ПРАГАЛАСУЙЦЕ, КАЛІ ЯШЧЭ НЕ ХАДЗІЛІ.
ВЫБАРЫ СКОНЧАЦЦА ПРАЗ ГАДЗІНУ.
ЯК ТОЛЬКІ РЭЗУЛЬТАТЫ БУДУЦЬ АБВЕШЧАНЫЯ, Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ПРАСАЧЫЎ ЗА ЎБОРКАЙ БАЛЬ-НАЙ ЗАЛЫ І ПАДРЫХТОЎКАЙ ДА СЁННЯШНЯЙ ВЕЧАРЫНЫ Ў ГОНАР ПЕРАМОГІ.
А ПАСЛЯ РУПЛІВА ПАГАВАРЫ З КАРАЛЁМ КО-ЛЕМ І ДАВЕДАЙСЯ, ЯК ХУТКА ЁН ЗМОЖА З'ЕХАЦЬ З МАЙГО ПЕНТХАЎСА.
АХ, І АДПРАЎ ШЭСЦЬ ТУЗІНАЎ РУЖ У БАЛЬНІЦУ ДА СНЕЖКІ СА ЗВЫЧАЙНАЙ ВІНШАВАЛЬНАЙ ПАШТОЎКАЙ, ЯКАЯ ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА ГЭТАЙ ПАДЗЕІ.
БУДЗЕ ЗРОБЛЕ-НА, СЭР.
PRE-ORDERED FLOWERS ONLY
EDWARD BEARS CANDIES RE-OPENING SOON
14
CAUTION WHEN ENTERING MEN AT WORK
N. RHYME CONSTRUCTION
GRAND GREEN FLORIST SHOP ENQUIRES
NOD'S BOOKS
lewis antiques (NEW SIGN COMING SOON)
CLOSED FOR REPAIRS
SORRY



ЦУДОЎНЫ ДЗЕНЬ.
ТРАГІЧНЫ ДЗЕНЬ.
АДДАНЫ ДЖОН?
З ТАБОЙ УСЁ ДОБРА?
О, МУХАЛОЎ. Я НЕ **ЗАЎВАЖЫЎ** ЦЯБЕ.
ТАК, МАЁ ПАРАНЕНАЕ ПЛЯЧО ВЫЛЕЧЫЛАСЯ. **ДЗЯКУЙ**, ШТО СПЫТАЎ.
Э-Э... Я ЎВОГУЛЕ ПЫТАЎ ПРА...
ТВОЙ **САД** У ВЕЛЬМІ ДРЭННЫМ СТАНЕ.
ПРАЦА ЎСЯГО **ЖЫЦЦЯ**, МУХ... ЗНІКЛА, ПРОСТА ЗНІКЛА.
БУДЫНКІ МОЖНА АДРАМАНТАВАЦЬ ДАСТАТКОВА ХУТКА, СЫНОК. АЛЕ НА ГЭТА СПАТРЭБЯЦЦА ГАДЫ... ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ... НА ТОЕ, КАБ МОЙ САД НАБЫЎ СВОЙ ЗВЫЧАЙНЫ СТАН.
МНЕ ТАК ШКАДА.






І НАШЫМ **ПЕРАМОЖЦАМ** СТАНОВІЦЦА...
Я **ЧАКАЎ**, ШТО ВЫЙГРАЮ, АЛЕ ХТО МОГ ПРАДКАЗАЦЬ ТАКІ **РАЗГРОМ**?
ПАЧАЛАСЯ СВЕТЛАЯ **ПАЛАСА**, ДАРАЖЭНЬКІ. НА ГЭТА СПАТРЭБІЛАСЯ НЕКАЛЬКІ **СТАГОДДЗЯЎ**, АЛЕ МЫ НАРЭШЦЕ ЗАНЯЛІ СВАЕ МЕСЦЫ СЯРОД САЦЫЯЛЬНАЙ ЭЛІТЫ.
ТЫ ЯК ШЭРЫФ. **Я** ЯК НАМЕСНІК МЭРА.
ПРЫ ЎМОВЕ, ЧТО СНЕЖКА І БОЗЛІ **СЫЙДУЦЬ**, ЯК І МЯРКУЕ НАШ НОВЫ МЭР, ПРЫГАЖУНЯ.
ВОЎ, ЛЮБЫ, НЕ **ПСУЙ** МОМАНТ.


VOTE
З ІМ ЦЯПЕР НЕМАГЧЫМА БУДЗЕ ЖЫЦЬ, ПАПЯЛУШКА.
АЛЕ ТАБЕ БОЛЬШ І НЕ ТРЭБА. СТАЎЛЮ НА ТОЕ, ШТО І ГАДЗІНЫ НЕ ПРОЙДЗЕ, А ЁН УЖО БУДЗЕ ЗАБАЎЛЯЦЦА Ў ПЕНТХАЎСЕ З НАІЎНЫМІ КАЗАЧНЫМІ ДЗЯЎЧЫНАМІ.
ПАСТУШОК, ПАСЛЯ МАЁЙ АПОШНЯЙ АПЕРАЦЫІ ТВАЕ РУКІ ЦУДОЎНА ЗАГОЙВАЮЦЦА.
ЯШЧЭ ДЗВЕ ЦІ ТРЫ ПРАЦЭДУРЫ ПАВІННЫ ЦАЛКАМ ВЯРНУЦЬ СПРЫТНАСЦЬ.
ВЫ ТАК ЛІЧЫЦЕ, ДОКТАР?
ПА-МАЙМУ ТЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫ, ДЖЭК. ПАКУЛЬ НОВЫ РЭЖЫМ БУДЗЕ З УСІМ РАЗБІРАЦЦА, РАЗГАРНУЦЦА ТАКІЯ НОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ ДЛЯ ТВАІХ МАХІНАЦЫЙ.
ТЫ ТАК ЛІЧЫШ, ТАК?
ЛІЧУ, ГЭТАЕ МЕСЦА ІДЗЕ НА ДНО.
ГЭТА БЫЛІ ДОБРЫЯ ЧАСЫ, АЛЕ З ФЭЙБЛТАЎНАМ СКОНЧАНА. ЁН СЯБЕ ВЫЧАРПАЎ.
МАБЫЦЬ І ТАК, АЛЕ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК У РЫМЕ З'ЯВІЛАСЯ КАРУПЦЫЯ, СПАТРЭБІЛАСЯ ЯШЧЭ ПЯЦЬ СТАГОДДЗЯЎ, КАБ ЁН ЗАГІНУЎ.
У НАС ЯШЧЭ МОГУЦЬ БЫЦЬ ЦУДОЎНЫЯ ДЗЯНЬКІ.
НЕ ДЛЯ МЯНЕ, КАЙ. СА МНОЙ СКОНЧАНА.



ПАГЛЯДЗІ НА ІХ, СНЕЖКА.
ШЭСЦЬ САМЫХ ПРЫГОЖЫХ МАЛЯНЯТ, ПРА ЯКІХ МОЖА МАРЫЦЬ КОЖНЫ БАЦЬКА.
І ЗДАРОВЫЯ, ЯК КОНІ.
АЛЕ ТОЛЬКІ АДЗІН З ІХ ВЫГЛЯДАЕ ЯК ЧАЛАВЕК, БОЗЛІ.
КАГО ГЭТА ХВАЛЮЕ? ЯНЫ НАШЫЯ І МЫ БЕЗУМОЎНА БУДЗЕМ КАХАЦЬ ІХ.
ЗРАЗУМЕЛА. АЛЕ ТЫ НЕ ЗАДУМВАЎСЯ, ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ? ЯНЫ НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЗВЫЧАЙНЫХ, Я МУШУ ПЕРАЕХАЦЬ НА ФЕРМУ, КАБ ВЫХАВАЦЬ ІХ.
А ТАБЕ ТУДЫ НЕЛЬГА.


VOTE
ДАМЫ, ЯК **ЦУДОЎНА**, ШТО ВЫ ПРЫЙШЛІ НА СВЯТА.
МЫ Б НІКОЛІ ЯГО **НЕ ПРАПУСЦІЛІ**, ПРЫНЦ.
ВЫДАТНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ **ПАГУТАРЫЦЬ** НАКОНТ БЛІЖЭЙШАЙ БУДУЧЫНІ.
Я ЗБІРАЮСЯ ЗРАБІЦЬ УСІХ НА ТРЫНАЦЦАТЫМ ПАВЕРСЕ **КАЗАЧНА** БАГАТЫМІ.
ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, Я АБЯЦАЎ **СУБСІДЗІРАВАЦЬ** ПЕРАЎТВАРЭННЕ І ЧАРЫ АБЛІЧЧА ДЛЯ КОЖНАГА КАЗАЧНАГА З ФЕРМЫ, ХТО ПАЖАДАЕ ЖЫЦЬ СЯРОД ЗВЫЧАЙНЫХ.
ТАК, МЫ **ЧУЛІ** ПРА ГЭТА.
НАМ ЯШЧЭ ТРЭБА АБМЕРКАВАЦЬ **АПТОВУЮ** ЗНІЖКУ, АЛЕ ЯК ХУТКА ВЫ МОЖАЦЕ ПАЧАЦЬ ПАДРЫХТОЎКУ ЗАКЛІНАННЯЎ?
НІКОЛІ.
ПРАБАЧЦЕ?
ДУРНЫ ПРЫНЦ. ГАЛОЎНАЯ ПРЫЧЫНА, ЧАМУ МЫ БЯРЭМ ЗА НАШЫЯ ПАСЛУГІ ТАК ДОРАГА, – ГЭТА АБМЕЖАВАНАСЦЬ ПОПЫТУ НА ІХ НАСТОЛЬКІ, НАКОЛЬКІ МЫ ЗМОЖАМ ЯГО ЗДОЛЕЦЬ.




VOTE
МЫ ЎЖО АМАЛЬ ДАСЯГНУЛІ **МЯЖЫ** НАШЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ ПА СТВАРЭННІ ЗАКЛІНАННЯЎ. МЫ НЕ МОЖАМ ДАЦЬ ВЯЛІКАЙ КОЛЬКАСЦІ ЧАРАЎ АБЛІЧЧА І НІЯКІХ НОВЫХ ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ.
МЫ **НЕ МОЖАМ** СТВАРАЦЬ ЧАРЫ ПАТОКАМ, НІБЫ НЕЙКАЯ ФАБРЫКА ЗВЫЧАЙНЫХ.
АЛЕ...
...Я **АБЯЦАЎ**.
ВЕДАЮ.
ЦЯПЕР ТЫ ЎЖО ШКАДУЕШ, ШТО НЕ ПАРАДЗІЎСЯ З НАМІ, **ПЕРШ ЧЫМ** РАБІЦЬ ГЭТА ГАЛОЎНЫМ ЛОЗУНГАМ ТВАЁЙ КАМПАНІІ?
ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯГО... **ХАДЗЯЧЫ МЯРЦВЯК**.
РУЖА ЦЕРНІ, ЁН УЖО, БЕЗУМОЎНА, П'ЯНЫ...


Наступнай раніцай...
for
Hero of the
Я САПРАЎДЫ БЫЎ ТАКІМ ДРЭННЫМ?




Прайшлі дні. Прыйшла летняя спякота
Я З'ЕМ ТВАЕ ПАЛЬЦЫ, І ПАЛЬЦЫ НА НАГАХ І ТВАЕ ВОЧЫ.
І Я ЗРАБЛЮ РАГУ З ТВАЁЙ ССОХЛАЙ, СТАРОЙ ПЛОЦІ, І ПУДЫНГ З МАЗГОЎ.
Я САТРУ Ў МУКУ ТВАЕ КОСТКІ, І СПЯКУ ХЛЕБ.
І НЕ ТОЛЬКІ ЦЯБЕ. Я ВЫСАЧУ ЎСІХ ТВАІХ ДЗЯЦЕЙ І ЎНУКАЎ І НАВАТ ІХ ДЗЯЦЕЙ ДА ДВАНАЦЦАТАГА КАЛЕНА, І ІХ Я ТАКСАМА З'ЕМ.
ГЭТА ДОБРА.
КАЛІ Я ВЫЗВАЛЮСЯ, ТО РАЗНЯСУ ФЭЙБЛТАЎН, А ЗЯМЛЮ ПАСЫПЛЮ СОЛЛЮ.
ДОБРА.
АЛЕ ЗАРАЗ ДАВАЙ ВЕРНЕМСЯ ДА НАШАЙ ГУТАРКІ, НЕ СУПРАЦЬ?
ХТО ТАКІ ВОРАГ?


Гэта часопіс расследаванняў Кэвіна Торна, былога пасрэднага рэпарцёра вялікага сталічнага інфармацыйнага бюро.
Я пішу ад рукі, таму што лічбавую копію можа выкрасці кожны здольны хакер, таму гэта здаецца найлепшым спосабам забяспечыць існаванне толькі адной копіі. Калі вы гэта чытаеце, то я, хутчэй за ўсё, мёртвы.
Некалькі драматычна? Але давайце пачнем з самага пачатку.
У верхняй заходняй частцы Манхэтана, паміж вуліцай Кіплінга і вуліцай Андэрсана, ёсць невялікая жылая вуліца – Булфінч.
Ледзь больш за тры месяцы таму ўся вуліца была ахопленая пажарам, які верагодна ўзнік падчас узброенай страляніны, якая, здаецца, прайшла незаўважанай.
Нават некалькі разрозненых сведкаў, якія патэлефанавалі першымі, у сучасны час ужо нічога не памятаюць пра свае сведчанні і заяўляюць, што не бачылі нічога дзіўнага.
Фактычна, здаецца, я адзіны чалавек (акрамя, напэўна, жыхароў Булфінча), які можа што-небудзь успомніць пра гэта.
Чаму гэта адбылося? Што робіць мяне такім асаблівым?
Гэта толькі адна з таямніц, якія я спрабую расследаваць апошнія тыдні.
ГАТОВЫ ПАГУЛЯЦЬ, ГАС, СЯБРУК?
DOG




ЯНЫ ПРОСТА **ЧАРОЎНЫЯ**, СНЕЖКА!
УЖО ВЫРАШЫЛІ, ЯК НАЗАВЯЦЕ?
Я ПРАПАНАВАЎ НЕКАЛЬКІ ІМЁНАЎ, АЛЕ СНЕЖКА ЎСЕ ІХ **АДХІЛЯЕ**.
МЫ МЯРКУЕМ НАЗВАЦЬ ЯЕ **КВІТНЕЮЧАЙ**, ТАМУ ШТО ЯЕ ЧЫРВОНАЯ ФУТРА НАГАДВАЕ МНЕ ПРА РУЖУ ЧЫРВАНЬ.
**КОЛЬ** – ДОБРАЕ ІМЯ ДЛЯ ХЛОПЧЫКА.
ЦІ АМБРОЎЗ.
ТЫ ВЕДАЕШ КАГО-НЕБУДЗЬ З ІМЕМ АМБРОЎЗ?
Я. ГЭТА МАЁ **САПРАЎДНАЕ** ІМЯ.
ГЭЙ! АДЗІН **СПРАБУЕ** СЕСЦІ!
ЛУХТА. ЯНЫ ЯШЧЭ ЗУСІМ МАЛЕНЬКІЯ.
А БОЖУХНА.

